РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# Фермерскія клопаты Мікалая Устымчука



Мікалая Устымчука, да якога я прыехаў разам з ганцавіцкім фермерам Мікалаем Рубанам, знайшлі на ўзлеску. Грэйдар раўняў пляцоўку перад сховішчам для бульбы, а гаспадар кіраваў працэсам.

Новы аб'ект радуе фермера. Каркас зманціравала будаўнічая ўстанова з Кобрына. Астатняе заканчвалі самі. Управіліся за шэсць месяцаў. Уцяплілі так, што ў сярэдзіне пастаянна падтрымліваецца аптымальная тэмпература. Зіма ўжо праверыла на якасць. Аб'ём будыніны разлічаны на тры тысячы тон бульбы, буракоў, морквы. Для яблыкаў маецца асобнае сховішча на 250 тон.

Зараз мясцовыя майстры збіваюць з дошак кантэйнеры для бульбы. Спяшаюцца. Мікалай Устымчук дэманструе механізм для забівання цвікоў. Тут жа прасіць Мікалая Рубана забіць цвік звычайным малатком. Госць не ўломак, але цвік хавае шляпку ў дошцы толькі пасля дзясятага ўдару.

– Бачыце, – кажа задаволены Устымчук, – колькі часу эканоміцца дзякуючы вось гэтаму прыстасаванню! Трэба купіць яшчэ адно такое прыстасаванне, бо можам не ўправіцца. Кітайскае каштуе 200 долараў, еўрапейскае нашмат даражэй, але за дзень можа зламацца. Вось думаю, якое лепш набываць...

Кантэйнеры высяцца пад навесам. Каб цалкам запоўніць імі сховішча, трэба мо ў пяць разоў больш.

Сялянская фермерская гаспадарка Мікалая Мікалаевіча Устымчука, так яна афіцыйна і пазначана ў дакументах, займаецца вырошчваннем бульбы, гуркоў, буракоў сталовых і цукровых, цыбулі, мае вялікі сад, ягаднікі.

– Як усё пачыналася? – пытаюся ў гаспадара.

– Можа, ад роспачы? Калгасы гадоў дваццаць таму імкліва гублялі сілу, можна сказаць, нават развальваліся. Трэба было шукаць цвёрдае апірышча для сябе і сям'і. Да гэтага я паспеў папрацаваць шафёрам, інжынерам у райсельгастэхніцы, механікам на свінаводчым комплексе, усяго і не пералічыш. Бываў у Польшчы, глядзеў, як там жывецца фермерам. Пачынаць на голым месцы заўсёды цяжка, а ў нас тым больш. На словах новую справу быццам бы падтрымліваюць, а на справе цяжкі крыж давялося валачы самому. Атрымалі сем гектараў зямлі, а грошай для развіцця гаспадаркі няма.

Вымушаны быў дзесяць доўгіх гадоў вазіць грузы на фуры па Расіі, а жонка Ніна Міхайлаўна займалася звыклымі сялянскімі справамі на зямлі.

У 1995 годзе зарэгістравалі фермерскую сялянскую гаспадарку. Адмовіліся ад участка зямлі, што выдзелілі нам раней у балоце для адчэпнага. Зараз там лес расце. Паўстала пытанне, з якіх культур пачынаць?

Прыгожая задума – пасадзіць вялікі сад. Выбралі для яго першы кавалак зямлі ў дзесяць гектараў. Але здолелі пасадзіць сад толькі праз 15 гадоў. Зараблялі грошы. Я, механік, цалкам асвоіў справу садавода. Куплялі падвоі, сам акуліраваў іх. Цяпер з гонарам усім гавару, што ў нашым садзе толькі свае дрэвы. Іх зараз 26 тысяч, па адной тысячы на гектар. Вырошчваем яблыні і грушы.

Плануем закласці сад на шпалерах. Для гэтай мэты ўжо маем свой гадавальнік.

Ураджай яблыкаў і груш здымаем ужо тры гады. Са збытам вялікіх праблем няма. Калі усур'ёз займацца справай, то патрэбны прадукт заўсёды прадасі. Летась, напрыклад, тон 70 яблыкаў адправілі ў расійскі горад Ліпецк.

15 тон пакінулі для сваіх людзей, усе разышліся. На зіму пакуль што не закладваем. Падлічыш затраты і разумееш, што вялікай выгады няма. Уяўная прыбаўка коштаў будзе з'едзена затратамі на энергію, другія эксплуатацыйныя выдаткі. Лепш прадаваць свежымі.

– А самая любімая культура?

– Бульба. Я ўсё жыццё на бульбе. Канешне, раней яе вырошчванне прыносіла немалыя грошы, а зараз – клопаты. Але ж без яе ніяк! Уся тэхніка наша набыта на "бульбяныя" грошы, бо на збожжы прыбытку не атрымаеш, там нуль.

– Але ж вы сееце пшаніцу, ячмень?

– Для севазвароту, для саломы, карацей, для ўласных патрэб. Вясной сёлета бульба прадавалася па рэкорднай цане.

– Традыцыйнае і балючае пытанне – рэалізацыя.

– Вымушаны шукаць збыт па-за межамі Брэсцкай вобласці. Раней было нашмат прасцей. Я прывык гаварыць праўду: зараз усе з абавязковымі тэндарамі проста падурэлі! Няўжо не відаць, што яны вядуць да махлярства, да штучнага скідвання коштаў. У мінулым годзе бульбу ў Іванава пастаўлялі з Баранавічаў. І хто? Перакупшчык!

– Падобна на дыскрымінацыю мясцовага фермера...

– У адносінах да нас не дыскрымінацыя, а нешта горшае за яе. Няхай бы дзяржава сачыла за коштамі закупак на дзяржаўныя патрэбы. Навошта баламуціць людзей? Фермера вымушаюць ствараць штат вялікай абслугі для падлікаў-пералікаў, праверак і гэтак далей. Наша гаспадарка сваёй бульбай магла б накарміць усю Брэсцкую вобласць. Калі б мне сказалі: мы ў цябе яе забяром! У школы, садкі, шпіталі мы завозім бульбу сваім транспартам, у сваёй тары, імгненна выгружаем. Мы ніводнага пакупніка не трымаем ніводнай лішняй хвіліны. У нас загадзя усё ўзважана, аформлена. У нарыхтоўчай канторы на цэнтнер бульбы трэба паўдня затраціць. Мне падаецца, што ад безгаловасці, прабачце, раней калгасы разваліліся, зараз яшчэ кволыя фермерскія гаспадаркі пад корань падсякаюць. Прыклад: раённы аддзел адукацыі падлічыў, што на закупку бульбы выдзяляюць па 30 капеек за кілаграм. Яны што, хочуць, каб мы на іх працавалі бясплатна?!

Праца пад небам у многім залежыць ад надвор'я. У пазамінулым годзе на бульбе былі вялікія страты.

Цукровыя буракі добрыя тым, што ўвесь тэхналагічны працэс механізаваны. Іх, а таксама капусты, гуркоў можам вырасціць хоць некалькі тысяч тон, а каму іх потым прадаць?

У нас восем трактароў і 15 машын. Ёсць увесь набор, акрамя збожжавага камбайна, ён нам не патрэбны. Выгадней арандаваць на сезон уборкі.

Пра якасць нашай айчыннай тэхнікі гаворка асобная – горкая, без слёз і мацюкоў не атрымліваецца. Задумваюць усё канструктары цудоўна. Пачытаеш рэкламу – душа радуецца. Глянеш звонку – з першага разу таксама прыемна. Але ствараецца такое ўражанне, што выканаўцы, тыя, хто ўвасабляе ідэі канструктараў у метал, – гэта тэхналагічныя інваліды. Хіба гэта нармальна, што да трактара, які мы купляем не для забавак, а для працы, на працягу гарантыйнага тэрміну неабходна мноства разоў выклікаць рамонтнікаў?

Як ім не сорамна! Трактар "Беларус 1822" праз месяц пасля набыцця загарэўся. Добра, што механізатар паспеў выскачыць з кабіны, а мог і загінуць. Уся электраправодка ў трактары выгарала. Кабель быў пракладзены абы-як, з дэфектамі.

Карзіну счаплення ў тым жа трактары мянялі. З самага пачатку не працаваў дворнік. Лопнула шкло ў кабіне без дай прычыны. І яшчэ можна пералічыць шэраг ўсялякіх дробязяў.

Вытворцам гумовых колаў хочацца параіць: альбо спыніце гнаць брак, альбо грунтоўна падвучыцеся ў тых, хто гэта даўно ўмее рабіць.

Мы прад'явілі прэтэнзіі да якасці гумы на пярэдніх колах. Прыязджаюць спецы і кажуць нам з пыхай: вы не напампавалі паветра ў колы. Яны думалі сустрэць у вёсцы людзей без мазгоў, ці што? Быццам мы не ведаем, што колы трэба паветрам напампаваць.

Па іхніх рэкамендацыях – дык на трактары трэба не працаваць, а хадзіць следам за ім з кампрэсарам і праз кожныя дзесяць хвілін то надзімаць колы, то спускаць паветра. Быццам ім не вядома, якая дарагая ў вёсцы кожная хвіліна.

Зараз, на трэці год, давялі трактар да толку. Шлангі гідраўлікі, гідрамуфты – усё працякала. Масла вылівалася на зямлю. Бруд, неахайнасць. Такое ўражанне, што на заводзе імкнуцца паставіць таннае і абы-якое. А нам трэба надзейнае.

Мне так бачыцца працэс узаемаадносін вясковага механізатара і заводскіх канструктараў-тэхнолагаў: трактарыст, купіўшы трактар, павінен паднімацца ў кабіну пры гальштуку, а заводскія хадзіць у спяцоўках, рукавіцах і выпраўляць хібы. Пакуль усё наадварот!

Між тым кошт трактара фантастычны…

Вымушаны распавесці, як нас, сялян, фермераў, сустракаюць на Мінскім трактарным заводзе. Заплаціўшы грошы, два ці тры дні чакалі, каб атрымаць трактар. Не каб работнікі службы збыту бегалі за намі, прапаноўвалі прыязджаць яшчэ…

Як горка было чуць нядаўна ў адной кампаніі: маўляў, будуем комплекс – і ўся тэхніка ў нас фірмы "Джон Дзір". Працуе без адмовы, чысценька, акуратненька. Хочацца спытаць, дык да якой жа пары мы будзем хваліць "Джон Дзір" і мірыцца з кепскай якасцю айчынных трактароў?!

Заводскую тэхніку мы, як ні прыкра, вымушаны даводзіць да ладу сваімі сіламі. Трактарысты ў нас універсалы, сам я – механік, ёсць токар і станок харошы. Усе віды рамонтаў робім самі, ні на кога не спадзеючыся.

***

У фермерскай гаспадарцы Мікалая Мікалаевіча Устымчука – 350 гектараў зямлі. Выглядаюць яны дагледжанымі, хаця гаспадар непакоіцца, дае па тэлефоне загад механізатарам тэрмінова выехаць для праўядзення той ці іншай аперацыі. Вясной турбавалі замаразкі, цяпер іншыя клопаты. У тых, хто працуе на зямлі, іх заўжды шмат.

**Мікалай ЗЯНЕВІЧ.**
*Іванаўскі раён.*

**P.S.** Мікалай Рубан пра якога я расказваў у мінулым нумары "Народнай Волі", і Мікалай Устымчук пазнаёміліся падчас стажыроўкі ў Даніі. З той пары сябруюць, даволі часта сустракаюцца. Пытаюся, чаму яны навучыліся ў Даніі.

– Фактычна нічому, – усміхаецца Мікалай Рубан, – нашы цяжкасці, нашы перашкоды ні на што другое не падобныя. Мы іх вучымся пераадольваць у працэсе працы.

Сустрэчы, шчырыя гутаркі дапамагаюць сябрам падзарадзіцца аптымізмам.

Абодва перакананы, што асацыяцыі фермераў патрэбны, яны павінны дапамагаць у нялёгкай сялянскай працы.

ЧУЛІ?

# Беларусаў заклікаюць пераязджаць у Краснадар

*Расійскі забудоўшчык запрашае грамадзян Беларусі набываць жыллё ў новых жылых комплексах горада-мільёніка Краснадара. Некаторыя набываюць адразу некалькі кватэр – "квадрат" на сонечным расійскім поўдні ўдвая таннейшы за мінскі.*

Беларускі сегмент сацыяльных сетак поўніцца прапановамі ад расійскіх забудоўшчыкаў. Кампаніі з розных рэгіёнаў гатовы даць растэрміноўку, скідкі і нават кампенсаваць кошт пералёту кожнаму, хто захоча разжыцца нерухомасцю недалёка ад мора. Вока чапляецца за рэкламу будаўнічай кампаніі РАС, якая абяцае нават аплаціць транспартныя выдаткі да 30 тысяч расійскіх рублёў (500 долараў па сённяшнім курсе) пакупнікам-беларусам. Адным словам, толькі прыязджайце!

Паводле слоў прадстаўніка кампаніі Аляксандра, беларусы даўно цікавіліся нерухомасцю ў Сочы і Краснадары, але сёння людзі асабліва актыўна ўкладваюцца ў новыя кватэры недалёка ад Азоўскага і Чорнага мораў.

*"Мы прапануем на выбар некалькі жылых комплексаў у Краснадары, якія будуць узведзены праз шэсць месяцаў, год і два гады,* – распавёў "Народнай Волі" кансультант РАС. – *Беларусы больш ахвотна выбіраюць кватэры сярэдняга кошту, бяруць часам адразу некалькі. Нехта плануе здаваць падчас курортнага сезона, іншыя набываюць сабе і сваякам, бацькам-пенсіянерам".*

Пры гэтым, падкрэслівае наш субяседнік, нерухомасць набываюць зусім не алігархі, а звычайныя людзі. Аднапакаёвая кватэра-студыя плошчай 31 квадратны метр у прэстыжным раёне прадаецца за 1 мільён 180 тысяч рублёў, ці 19 тысяч долараў. Кошт квадратнага метра – 612 долараў. У Мінску кошты на навабуды пачынаюцца ад 800 долараў, а стандартны кошт – 1000–1200 долараў за "квадрат". Самая дарагая кватэра ў доме, які адпавядае ўсім сучасным стандартам – трохпакаёўка на 78 квадратных метраў – каштуе 56 тысяч долараў.

Розніцу ў коштах можна было б патлумачыць цёплым кліматам Краснадарскага краю. Маўляў, не трэба ўкладвацца ў ацяпленне, можна сэканоміць на матэрыялах. Але прадстаўнікі кампаніі ўпэўніваюць, што праект сучасны і адпавядае ўсім стандартам, ён цудоўна падышоў бы і да сярэдняй паласы. Можа быць, справа ў інфраструктуры і новы жылы комплекс будзе стаяць пасярод чыстага поля?

*"Беларусы звычайна набываюць кватэры сярэдняга кошту ў раёне Гідрабудаўнікоў. Гэтаму месцу больш за 40 гадоў, таму інфраструктура развітая, побач ёсць усё што трэба,* – патлумачыў расійскі гандляр. – *Больш прэстыжны комплекс у Юбілейным раёне паўстане ў атачэнні садоў і паркаў. Ад гэтага месца зручна дабірацца да марскога ўзбярэжжа. У пешай дасяжнасці гандлёвыя цэнтры і забаўляльныя комплексы. Але тут людзі рэдка замаўляюць некалькі кватэр".*

Безумоўна, Краснадар нельга параўноўваць са сталічным Мінскам, але цяжка не задумацца: ці сапраўды айчынны квадратны метр, часцей за ўсё пабудаваны з беларускіх матэрыялаў беларускімі будаўнікамі, цягне ў сярэднім на 1100 долараў?

КАЛЬКУЛЯТАР

## Што пачым?

Згодна з дадзенымі партала realt.by, сёння сярэдні кошт квадратнага метра ў Мінску складае 1100 долараў. Цана вагаецца ад 900 долараў амаль да бясконцасці, ёсць у сталіцы кватэры і з "залатымі" метрамі ў некалькі тысяч долараў. Кошты на шыкоўныя апартаменты могуць дасягаць некалькіх мільёнаў долараў. Праўда, нельга сказаць, што элітныя метры разбіраюць, як гарачыя піражкі. Пентхаусы і кватэры могуць чакаць сваіх пакупнікоў гадамі.

**Ірына БУДНІК.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Калі шкарпэткі ратуюць жыццё

*Штогод у Беларусі нараджаецца каля пяці тысяч неданошаных дзяцей. Медыкі пачынаюць барацьбу за жыццё, калі вага пры нараджэнні немаўляці вышэй за 500 грамаў. Дзіця месяцамі можа "даспяваць" у спецыяльных медыцынскіх боксах-кювезах, але гэта толькі першы этап рэабілітацыі. Чым можна дапамагчы малым і іх сем'ям? Падтрымка можа быць рознай. Часам дастаткова падарыць ваўняныя шкарпэтачкі, упэўнена дырэктар інфармацыйнай сацыяльна-дабрачыннай установы дапамогі дзецям і сем'ям «Бэйбі Сторы»* ***Наталля Міранчук.***




### Недастаткова важная праблема?

Малюсенькія ваўняныя шкарпэтачкі, якія апранаюць на неданошаных дзяцей, – не блазнота або просты сімвал падтрымкі. Натуральны матэрыял саграе і пакалвае ножкі, дзякуючы гэтаму дзіця пачынае больш актыўна рухацца, часцей прачынаецца. Гэта стымулюе цыркуляцыю крыві, развіццё галаўнога мозгу. Медыкі ў многіх еўрапейскіх клініках даўно ўзялі на ўзбраенне гэты няхітры спосаб дапамогі немаўлятам. У беларускіх бальніцах шкарпэтачкі для неданошаных дзяцей з'явіліся зусім нядаўна дзякуючы намаганням валанцёраў сацыяльна-дабрачыннай ўстановы дапамогі дзецям і сем'ям "Бэйбі Сторы". Гэта толькі адзін з многіх праектаў, які падтрымлівае арганізацыя. Напрыклад, валанцёры вяжуць спецыяльных цацачных васьміногаў, якія імітуюць пупавіну.

*"Пачалося ўсё даволі даўно, калі мы з фатографам Сашам Канатопам першымі ў Беларусі пачалі рабіць фотасесіі для нованароджаных,* – распавядае дырэктар дабрачыннай арганізацыі **Наталля Міранчук**. – *Паступова мы пачалі афармляць нашымі работамі радзільныя аддзяленні мінскіх шпіталяў. Паралельна я супрацоўнічала з літоўскай бальніцай Сантарышкес у Вільнюсе. Менавіта там крыху больш за год мяне папрасілі паздымаць неданошаную дзяўчынку, якая пры нараджэнні важыла 900 грамаў, а на момант здымкаў – 1,5 кілаграма. Я крыху нервавалася, думала, як вазьму яе на рукі. Але ў палаце нас сустрэў тата, які рабіў дзяўчынцы спецыяльны масаж для лепшага стрававання, пакуль мама сцэджвала малако. Малая паводзіла сябе як звычайнае, толькі вельмі маленькае немаўля. Для мяне гэта быў пазітыўны шок – не магла ўявіць, каб тату ў нас дапускалі ў бальніцу ды яшчэ да неданошанага дзіцяці".*

Калі здымкі былі гатовы і Наталля вярнулася ў клініку, літоўскія медыкі параілі ёй звярнуць увагу на тэму неданошаных дзяцей у Беларусі. Аказалася, гэтым ніхто не займаецца. Так з'явілася "Бэйбі Сторы".

*"Лічыцца, што існуюць больш важныя праблемы – анкалогія, захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, дзіцячы цэрэбральны паралюш,* – падзялілася Наталля. – *Але ж прыкладна 20 працэнтаў неданошаных дзяцей маюць пасля дыягназ ДЦП. Малыя, народжаныя раней тэрміну, могуць мець вельмі шмат праблем са здароўем. А іх бацькі застаюцца сам-насам з праблемамі ў стане стрэсу. Безумоўна, многае робіцца для такіх сем'яў, але іх ніколі не выдзялялі ў асобную групу, якая патрабуе дапамогі. Бацькам не хапае інфармацыі, падтрымкі".*

### Тата можа ўсё што заўгодна?

Калі дзіця з'яўляецца на свет раней за тэрмін, многія мамы вызнаюць пачуццё віны: не змагла вынасіць, выканаць сваю функцыю. Большасць бацькоў нават не ведае, што сігнал да пачатку родаў даюць наднырачнікі дзіцяці, а не арганізм маці. Заўчасныя роды могуць здарыцца з розных прычын. Вельмі часта праблемы не ў фізічным стане жанчыны, а ў сацыяльных, сямейных праблемах. Вельмі важна своечасова падключыць тату, аказаць падтрымку маці, сям'і.

*"Тата амаль выключаны з працэсу догляду за неданошаным дзіцем,* – адзначае суразмоўца "Народнай Волі". – *Звычайна ён можа "атрымаць" дзіця праз 3–4 дні пасля нараджэння, неданошанае дзіця тата не бачыць месяцамі. Часцей за ўсё ў татаў ёсць жаданне дапамагчы, але калі тату раз, другі не пусцілі ў бальніцу, то цікавасць паволі знікае. Бацькі павінны быць раўназначна ўцягнутымі ў клопат пра дзяцей. Тую функцыю, якую мы часта ўскладаем на бабуль, павінен выконваць бацька. Мужчына павінен уключыцца ў сістэму, дзе ёсць дзіця. І дзяржава павінна дапамагаць.*

Калі на свет раней за тэрмін з'яўляецца дзіця з асаблівасцямі, мужчыны часта не вытрымліваюць і сыходзяць з сям'і. Спецыялісты «Бэйбі Сторы" не толькі распавядаюць, як можна дапамагчы неданошанаму немаўляці. Яны аказваюць псіхалагічную падтрымку бацькам. Асабліва ў самыя складаныя моманты.

*"Мы падтрымліваем бацькоў у сітуацыі страты, дапамагаем ім перажыць гора, каб яно не пашкодзіла завесці дзяцей у будучыні. Многія жанчыны, якія перажылі заўчасныя роды і асабліва смерць дзіцяці, баяцца наступных цяжарнасцяў. Па статыстыцы працэнт паўторных заўчасных родаў не вельмі высокі».*

### Не баяцца

"Бэйбі Сторы" мае афіцыйны статус. Дзякуючы гэтаму, валанцёры маюць доступ ва ўстановы аховы здароўя, могуць прапаноўваць медыкам самую розную дапамогу.

*"Урачам цікава, яны гатовы нас слухаць,* – прызнаецца Наталля. – *Мы запрашаем спецыялістаў міжнароднага ўзроўню для правядзення майстар-класаў, абмену вопытам. Зусім нядаўна мы прывезлі два цікавыя праекты: шкарпэткі для нованароджаных і васьміногі – імітатары пупавіны. Ніхто не верыў, што нам пойдуць насустрач, але мы вырашылі ўсе пытанні з санітарнымі нормамі. Кожны камплект шкарпэтак і кожны васьміног паедуць з малымі дадому. Цяпер мы вядзём перамовы аб так званых гнёздах – спецыяльных мяккіх устаўках у кювез. Гняздо імітуе ўлонне маці, у ім малы адчувае сябе больш спакойна, утульна. Верым, што хутка яны з'явяцца ў радзільнях".*

У "Бэйбі Сторы" працуюць над тым, каб наладзіць дыялог паміж медыкамі і жанчынамі, якія плануюць цяжарнасць.

*"Часам цяжарная жанчына баіцца задаць важнае пытанне свайму гінеколагу, лішні раз паскардзіцца,* – адзначае Наталля. – *У перспектыве было б выдатна арганізаваць дні адчыненых дзвярэй у радзільнях, калі група будучых мам можа паглядзець на ўмовы, задаць важныя пытанні. Цяпер гэтая справа на ўзгадненні, і мы спадзяёмся на спрыяльны зыход гэтай справы".*

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ЯК ДАПАМАГЧЫ?

## Кожны можа паўдзельнічаць

У "Бэйбі Сторы" будуць удзячны за любую дапамогу. Каб падтрымаць неданошаных дзетак, можна:

– звязаць шкарпэтачкі з воўны. Даўжыня ступні шкарпэткі 3–5 см, вышыня 6–7 см;

– падарыць ніткі для вязання;

– зрабіць ахвяраванне: два рублі на адну пару шкарпэтак.

Інфармацыйная сацыяльна-дабрачынная ўстанова дапамогі дзецям і сем'ям "Бэйбі Сторы".

УНП 192724206.

Дабрачынны рахунак 3135051388018.

ААТ «Прыорбанк» БІК 153001749.



ПОУЧИТЕСЬ!

## Tesla удвоила объем продаж в сравнении с прошлым годом

Объем продаж Tesla за минувший квартал составил 2,79 млрд долларов, а за первое полугодие – 5,49 млрд долларов. Годом ранее за аналогичный период оборот компании равнялся 1,27 млрд долларов (за шесть месяцев – 2,42 млрд).

28 июля Tesla начала продажи своего первого бюджетного электромобиля Model3. Стоимость базовой версии Model3, зарядка аккумулятора которой рассчитана на 345 километров пути, составит 35 тысяч долларов. Это в 2–4 раза дешевле первых двух моделей Tesla – Model S и кроссовера Model X.

ПОЗИЦИЯ

## Кремль ведет страну к полной изоляции

Президент США Дональд Трамп подписал законопроект о санкциях в отношении России, а Кремль рассматривает возможность «чувствительного ответа».

Оппозиция в это время ищет рецепт выхода из санкционного кризиса.

Лидер ПАРНАСа Михаил Касьянов уверен, что ответ Кремля будет заключаться в еще большем завинчивании гаек внутри России. Выход для России Касьянов видит в смене власти демократическим путем, а дальше – в устранении самой причины введения санкций. Политик напоминает, что меры против страны приняты из-за аннексии Крыма и российских действий в Донбассе, а сегодня добавились еще два повода: вмешательство России в выборы в США и военная кампания в Сирии.

По мнению основателя «Яблока» Григория Явлинского, «принятие закона, ставящего Россию на одну ступень с Ираном и КНДР, – символ полного краха всей нашей политики Путина–Лаврова. По его мнению, Россия оказалась на пороге полной изоляции, страну подвели к исключению из мировой финансовой системы, отсечению от глобальных рынков капитала.

По словам Явлинского, даже в нынешней ситуации есть разумные предложения по выходу из сложившегося кризиса. В первую очередь, по его словам, необходимо реформировать экономику так, чтобы не зависеть от нефти и газа. Также нужно отменить контрсанкции и инициировать созыв международной конференции для обсуждения международно-правового положения Крыма. Также нужно вывести «отпускников» из Донбасса и остановить антиукраинскую пропаганду.

Основатель «Открытой России» Михаил Ходорковский также уверен, что для России последствия санкций будут весьма печальные: *«Они окончательно, на многие десятилетия, меняют нас с Китаем местами в сфере науки и технологий. Под техническими санкциями 140-миллионная страна в XXI веке обречена на отставание».* По его мнению, нужна смена действующей власти и политического режима в целом.

Впрочем, «Независимая газета» делает вывод, что призывы оппозиционеров не будут услышаны: *«Как в свое время в Иране, когда подогреваемые телевидением люди жгли американские флаги с криками: «Санкции нам не страшны!». Оказавшись в итоге в голоде, нищете и полной мировой изоляции, которая продолжается по сей день. Подписание Трампом новых санкций приближает Россию к этому страшному сценарию».*

ИХ ПУТЬ

## Болезненный разворот Венесуэлы от социализма



Сейчас в стране проходит расследование по подозрению в фальсификациях на выборах. Его инициировала генпрокурор Венесуэлы **Луиза Ортега** в связи с подозрениями в фальсификациях в ходе выборов в Национальное учредительное собрание.

Расследование начато после жалобы производителя технического оборудования для голосования Smartmatic. В компании убеждены, что показатели явки, «несомненно, подверглись манипуляциям».

Ранее сомнения в результатах голосования выразил один из пяти директоров избирательной комиссии **Луис Рондон.** «*Впервые с тех пор, как я взял на себя эти обязанности со стороны государства, я не могу гарантировать достоверность заявленных результатов*», – отметил он.

Агентство Reuters со ссылкой на внутренний документ венесуэльской избирательной комиссии сообщало, что за полтора часа до закрытия участков проголосовали 3,7 миллиона венесуэльцев. При этом после закрытия правительство отчиталось об участии в выборах 8,1 миллиона избирателей, или 41,5 процента граждан страны, обладающих правом голоса.

Выборы в Национальное учредительное собрание прошли 30 июля. Этот орган должен разработать изменения в конституцию страны. Голосование сопровождалось акциями протеста и беспорядками, в ходе которых погибли по меньшей мере 15 человек.

Оппозиция призвала своих сторонников бойкотировать голосование, опасаясь, что конституционная реформа приведет к усилению власти президента страны Николаса Мадуро и установлению его диктатуры.

На днях президент Венесуэлы **Мадуро** продлил чрезвычайное положение в стране, правительству предоставлены новые чрезвычайные полномочия. Демонстративная и отчаянная жесткость – такова реакция социалистического руководства Венесуэлы на катастрофическое состояние экономики, ставшее результатом неэффективного управления, коррупции и падения цен на нефть, а также на политический кризис. Правящие силы не хотят сдаваться в борьбе за власть.

Однако сколько еще сможет продержаться Мадуро, которого оппозиция пытается лишить поста президента? Будет ли это продолжаться до того момента, когда ситуация выйдет из-под контроля и Венесуэла, в прошлом помогавшая финансово своим «левым» союзникам вроде Кубы и Никарагуа, окажется на грани гражданской войны?

На наших глазах в Южной Америке происходит драматичная смена курса: в Аргентине потеряли позиции левые перонисты – с декабря в стране правят уже не они, в Бразилии фактически завершается 13-летний период правления Партии трудящихся, на благосклонность которой мог рассчитывать Мадуро. Но пока страданиям венесуэльцев не видно конца.

КАК ЭТО БЫЛО



# Мараварская трагедия

*2 августа ветераны Воздушно-десантных войск праздновали День ВДВ. Для нас, рожденных в 1960-х, это давно уже не день купания в фонтанах с кричалками во славу ВДВ и самозабвенным уличным мордобоем в пьяном угаре. 2 августа – день памяти об однополчанах, не вернувшихся с войны, умерших от ран в мирное время. В военном городке, расположенном в Марьиной Горке, в минувшую среду вспоминали о Мараварской трагедии.*

Январь 1985 года. На базе нынешней 5-й отдельной бригады специальных операций спешно формируется отряд для отправки в Афганистан. Кроме белорусов в отряд вошли спецназовцы из Уссурийска и из бригады, расквартированной в Изяславе (Украина). Формирование отряда и его предстоящая задача были тайной за семью печатями. В то время еще мало кто знал, где находится этот самый Афганистан и что там происходит. В партийных газетах писали о советских солдатах, помогающих афганским труженикам строить новую, социалистическую, жизнь. Дескать, наши воины сажают яблоневые сады, оборудуют системы орошения, строят школы, дома, больницы. О войне – ни слова. На могилах погибших в Афганистане, еще редких в ту пору, работники военкоматов запрещали писать о том, где и при каких обстоятельствах погиб солдат. Вспоминается случай в Минске: отец погибшего солдата самовольно написал на памятнике: «Погиб в Афганистане». Работники военкомата потребовали стереть надпись. В ответ убитый горем отец взял в руки топор и по ночам охранял могилу сына…

Но вернемся к 334-му отдельному отряду специального назначения, сформированному в Марьиной Горке. Кстати, перед отправкой «за речку» в официальных бумагах его «обозвали» 5-м мотострелковым батальоном. Вроде как для конспирации! Наши «враги за бугром» не должны были знать, что в Афганистане «строят школы и больницы» спецназовцы ГРУ ГШ… Мол, ежели мотострелки – так «строить–сеять–пахать» для них нормальное дело… Все в мире знают, что советские мотострелковые части состоят из очень мирных и вежливых человечков, чье предназначение в любой оккупированной стране вовсе не война, а исключительно мирный и созидательный труд. Но со спецназом –сложнее. Уж больно специфические подразделения. Потому 334-й отряд легким росчерком штабного пера превратился в 5-й мотострелковый батальон.

И провожали отряд в атмосфере секретности. Без митингов и «Прощания славянки». Без лишних свидетелей на рассвете погрузили в поезд на Узбекистан, в Чирчик – центр подготовки спецназа. Месяц адаптации и переподготовки. Ведь по старым советским планам спецназовцам из Марьиной Горки в случае конфликта с НАТО предстояло «работать» в лесах Баварии, на лугах Британщины... Они были «заточены» на ведение боевых действий в Европе. А в Афганистане совсем другая «ландшафтная архитектура». Другие «правила игры». В этом нашим «мотострелкам» очень скоро предстояло убедиться на собственном опыте.

28 марта 334-й отряд добрался до пункта постоянной дислокации – афганского города Асадабада. Две недели рыли сортирные ямы, устанавливали палатки и наслаждались пейзажами провинции Кунар. Горы, зелень садов, широкая горная река, за которой через 10 километров по ущелью уже Пакистан.

Именно Мараварское ущелье выбрал командир отряда для дебюта своих рэйнджеров. По информации разведки, в ущелье перманентно «тусовались» с десяток «духов» – хороший спарринг-партнер для бойцов спецназа.

Командир отряда вместе с начальником разведки пообщались на тему боевого выхода в Мараварское ущелье с афганскими коллегами из ХАД (аналог КГБ) и Царандоя (милиция). Затем выехали на пост Царандоя для рекогносцировки – пили чай с «братьями по оружию», изучали место предстоящей операции. Комбату казалось, что операция в ущелье будет похожа на блиц-партию в шахматы. Зашли–обнаружили–ликвидировали. Шах и мат. Тем более что духов там всего десяток. А у него в оперативном управлении будет три роты – почти 200 человек. Двадцать к одному. Плюс артиллерия на подстраховке и бронегруппа. Это даже не боевой выход, а воскресная прогулка. Тем более что по карте от расположения отряда до входа в ущелье – всего-то три километра! Даже железнодорожная станция Пуховичи от военного городка Марьина Горка находится на большем удалении!

20 апреля в 22.00 три роты спецназовцев, взяв по полтора боекомплекта (150 патронов на человека), выдвинулись к реке Кунар для переправы. Но рабочий день у паромщиков давно закончился. А без них переправиться через бурную, широкую реку нет никакой возможности. Поэтому стали шумно искать паромщиков. Нашли. Переправились с горем пополам. Паромщики вели себя нервно, пытались убедить «шурави», что не надо ходить в ущелье – типа «снег башка попадет». Но к паромщикам не прислушались. Переправившись через реку, вдруг обнаружили пропажу двух проводников из местного отдела госбезопасности. Ну что делать? Не отменять же операцию!

Около 4 часов утра 2-я и 3-я роты начали занимать господствующие высоты вдоль ущелья для прикрытия сверху бойцов 1-й роты, которые должны были «зачистить» кишлаки. В первый, Сангам, вошла группа лейтенанта Александра Кистеня, он же для друзей Кастет. Кишлак оказался пуст. Кистень с бойцами своей группы укрепились в развалинах кишлака, страхуя «спину» группы лейтенанта Кузнецова, которая пошла вглубь ущелья – к кишлаку Даридам.

Пять минут спустя Кузнецов сообщил командиру роты, что видит двух «духов», убегающих вглубь ущелья, и попросил разрешения на преследование. Ротный дал добро. Хотя, возможно, и чувствовал: тут что-то неладно. Уж очень похожа ситуация на игру в поддавки…

Через пару минут в районе кишлака Даридам раздались сначала беспорядочные выстрелы как прелюдия большого боя, затем на разведчиков группы лейтенанта Кузнецова обрушился шквал огня. Командир роты капитан Цебрук понял, что предчувствие его не обмануло: два «духа» в пляжных пластиковых тапках на босу ногу, убегавших вглубь ущелья, – это приманка. И, погнавшись за ними, группа лейтенанта Кузнецова оказалась в ловушке. Взяв с собой четырех бойцов, ротный бросился на помощь группе Кузнецова, но, пробежав 100 метров, упал, сраженный пулей снайпера. С этого момента 1-я рота потеряла управление. Отсутствовала связь с комбатом, группы спецназовцев были разрознены и деморализованы. Патронов хватило лишь на 10 минут боя… Группа лейтенанта Кистеня попыталась прорваться на выручку бойцам Кузнецова, но тут, как черти из табакерки, на их пути появились моджахеды, вооруженные крупнокалиберными (12,7 мм) пулеметами ДШК. Они вынудили группу Кистеня отступить. В это же время вторая группа моджахедов расстреливала окруженную плотным кольцом группу лейтенанта Кузнецова. 2-я рота попыталась спуститься с высоток на помощь 1-й роте, но их моджахеды тоже отрезали кинжальным огнем ДШК. Командир 3-й роты видел все, что происходило в кишлаке Даридам, передавал информацию комбату, но реально помочь огнем не мог: слишком большое расстояние. Была ситуация, когда комбат увидел выдвигающуюся из Даридама группу людей. Он подумал, это выходит группа Кузнецова. Но оказалось, что это бойцы пакистанского спецназа «Черные аисты», прибывшие на помощь местным боевикам. Знал бы комбат, что это пакистанский спецназ, вызвал бы артиллерию. Но он фатально ошибся. Задуманный им «блиц-турнир» закончился кровавым матом…

На помощь погибающей 1-й роте комбат вызвал бронегруппу из восьми БМП (боевых машин пехоты) и двух танков. Но и тут случилась «засада»: оказалось, что грузоподъемность парома не позволяет переправлять тяжелую технику. А ближайший стационарный мост лишь в 10 километрах от Асадабада. Вот так 3 километра по прямой через реку превратились в 23 через мост по испещренной оврагами и руслами пересохших рек местности, которую бронегруппа едва преодолела за 36 часов. При этом одна БМП вышла из строя, вторая – «разулась» (слетела гусеница), с танками тоже произошло какое-то недоразумение… В итоге «скорая помощь» в виде одной БМП добралась до ущелья лишь к «поминальной молитве»…

**Оставшись без патронов, тяжело раненный лейтенант Кузнецов подорвал себя гранатой Ф-1. В этом же бою семеро бойцов: Бойчук, Вакулюк, Гавраш, Кухарчук, Марченко, Музыка и Мустафин – взорвали себя штурмовой гранатой, сделанной из мины ОЗМ-72, предпочтя смерть плену и издевательствам.**

**Общее число погибших в Мараварском ущелье – 31 человек.**

**Среди них белорусы:**

**командир 1-й роты капитан Николай Цебрук,** д.Рудавка Пружанского района Брестской области;

**сержант Юрий Гавраш,** д.Гожа Гродненского района;

**сержант Станислав Кульнис,** д.Кузьмичи Ивьевского района Гродненской области;

**сержант Михаил Матох,** г.Житковичи Гомельской области;

**младший сержант Игорь Нападовский,** г.Лепель Витебской области.

Из погибших только двоих удалось опознать. Остальные были настолько изуродованы, что идентифицировали их лишь по татуировкам и деталям одежды. Большинству из этих ребят было всего 18 лет…

**Евгений СУЛЫГА,**
**специально для «Народной Воли».**

ВЕЛИКОБРИТАНИЯ

## Принц Филипп, «самый опытный в мире открыватель мемориальных досок», уходит на пенсию

Принц Филипп, супруг королевы Елизаветы II, в среду в последний раз поучаствовал в официальном мероприятии, после чего больше не будет исполнять официальные обязанности.

Супруг королевы Елизаветы II, сам себя назвавший *«самым опытным в мире открывателем мемориальных досок»*, уходит на пенсию после 70 лет на королевской службе.

КТО ЕСТЬ КТО

## Премьер-министром Пакистана избран Шахид Хакан Аббаси



Аббаси избран большинством голосов членов Национальной ассамблеи страны – за него проголосовал 221 парламентарий из 342.

Шахид Хакан Аббаси – многолетний соратник бывшего премьера Наваза Шарифа, отстраненного от должности из-за обвинений в коррупционных преступлениях в адрес членов его семьи.

Он учился в американском университете и работал инженером в США и Саудовской Аравии, а затем вернулся в Пакистан и пошел в политику.

Выступая после голосования, Аббаси заявил, что *«демократический процесс* (в Пакистане) *вновь запущен»*.

По мнению наблюдателей, правящая партия страны рассчитывает, что Аббаси будет временно исполняющим обязанности главы правительства до тех пор, пока к власти не придет брат бывшего премьера Наваза Шарифа – **Шахбаз Шариф.**

Для этого брату бывшего премьера, сейчас возглавляющему провинцию Пенджаб, нужно пройти ряд процедур, включая промежуточное голосование в парламенте. Как ожидается, весь процесс должен занять примерно 45 дней.

Аббаси в ходе своего выступления заявил, что версия о том, что он избран только для того, чтобы обеспечить пост другому чиновнику, несостоятельна.

«Люди говорят: «Он здесь только на 45 дней». Я могу проработать здесь 45 дней или 45 часов, но я не собираюсь просто греть кресло. Я собираюсь работать и сделать несколько важных вещей, если правительство меня поддержит», – заявил Аббаси после голосования.

СУДЬБА РОМАНОВЫХ



## Принцесса на мотоцикле

Большевики истребляли Романовых так же последовательно и беспощадно, как нацисты евреев. Многие царские родственники, даже очень дальние, хотя и были в большинстве своем совершенно аполитичными людьми, стали жертвами машины репрессий.

Но кое-кому удалось спастись. В Объединение членов дома Романовых на сегодня входят 38 человек в 11 странах. И – о, чудо! – одна представительница династии Романовых всю жизнь прожила в СССР. Как выразился однажды по иному поводу Александр Солженицын, это было «подобно явлению против физических законов».

Наталья Николаевна Андросова, урожденная княжна Наталья Александровна Искандер (1917–1999), – правнучка императора Николая I, последняя из законнорожденных потомков императорской семьи по мужской линии, оставшихся в СССР и постсоветской России. Мать Натальи Ольга Роговская осталась после революции в СССР, уехала с детьми Натальей и Кириллом в Москву, где их никто не знал, и вышла замуж за Николая Андросова, который дал свою фамилию ей и детям.

Наталья Андросова унаследовала «бешеную кровь» и бурный характер деда, хотя и не помнила его. В 1930-х гг. записалась в мотоциклетный клуб, участвовала в спортивных выступлениях. С 1939 года выступала в аттракционе «Гонки по вертикали» в парке им.Горького, в цирке. Стала мастером спорта СССР по мотогонкам. Во время войны была водителем «полуторки».

В годы «оттепели», когда ей уже перевалило за 40, она продолжала блистать в Парке Горького. Там стояла огромная деревянная бочка, и Наталья Андросова каждый день совершала по 15–20 заездов.

Она жила в полуподвале на Старом Арбате, и в кругах московской богемы ее называли королевой Арбата. Состарившийся, но не потерявший шарма Александр Вертинский целовал ей руку, молодые Галич, Вознесенский, Евтушенко и Межиров посвящали ей стихи.

Наталья Александровна была замужем за режиссером «Мосфильма» Николаем Досталем. Два ее пасынка (своих детей у нее не было) стали известными кинодеятелями.

Встретившийся с ней в конце 1980-х годов историк и писатель Эдвард Радзинский уверял, что сразу узнал знакомые по портретам фамильные голубые глаза прапрадеда Николая I.

17 июля 1998 года 82-летняя женщина присутствовала на погребении останков членов царской семьи в Петропавловском соборе Петербурга. А ровно через год умерла, по словам любящего символичность Радзинского, «будто отказавшись уйти из века, в котором была похоронена их династия».

